Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№ 8 Вільня, Субота, 14-га жніуня 1926 г. Год I.

## Арганізацыя паветаў.

Пасьля арганізацыі цэлае сеці гурткоў, парасцыданых па ўсіх паветах Заходняе Беларусі,—Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада ўваходзе ў новы этап свайго арганізацыйнага будаўніцтва: яна распачала арганізаваньне *паветовых цэнтраў партыі.*

Гэта ня знача, быццам арганізацыя гурткоў закончана. Наадварот: лічба іх расьце і будзе з кожным днём расьці далей. Але іменна гэты шыбкі рост дробных мясцовых партыйных арганізацыяў прымушае Грамаду адначасна прыступіць да *зьвязываньня ўсіх гурткоў кожнага павету паміж сабою*—пад беспасрэднім кіраўніцтвам ужо не далёкага агульнапартыйнага, а свайго бліжэйшага павятовага цэнтру. З гэтай мэтай Грамада і ладзіць па паветах зьезды гурткоў: 15 жніўня мае адбыцца такі зьезд у Дзісеншчыне (у Глыбокім), 22-га — ў Горадні і Паставах, 29-га—ў Вялейцы і гэтак далей.

Тварэньне павятовых цэнтраў партыі мае, ясна, дужа вялікую вагу дзеля партыйнае работы наагул, дзеля аб'яднаньня, зьвязаньня ўсіх актыўных сіл у павеце, якія, працуючы ў гуртках, павінны адчуваць, што яны — не адзінокі, што ў суседніх гуртках знойдуць заўсёды помач і падтрыманьне ў прыгодзе. Але гэта—ня ўсё: бо-ж павет, як тэрыторыяльная адзінка, аб'яднаная і дзяржаўнай адміністрацыяй (староства), і самаўрадавымі ўстановамі (соймік), жыве сваім уласным жыцьцём, мае сваю асобную грамадзкую гаспадарку, дык і свае асаблівыя патрэбы й інтарэсы. Каля адміністрацыйнага цэнтру павету гуртуецца і ўсё жыцьцё яго наагул, блізу ўсе справы насяленьня, калі і не аканчальна вырашаюцца ў павятовым цэнтры, дык праходзяць праз яго. І партыя, абавязкам якое зьяўляецца арганізаваньне і кіраваньне ўсім грамадзкім жыцьцём насяленьня, у кожным павеце мусіць мець свой орган, датарнаваны да вымогаў мясцовых варункаў, добра знаёмы з усімі справамі ўсяго павету. Толькі павятовы камітэт партыі, з якім у сталай сувязі будзе кожын вясковы ці гмінны гурток, меціме магчымасьць горача адгукнуцца на кожную балячку вёскі, можа наладзіць агульнае выступленьне насяленьня ў тэй ці іншай справе перад мяйсцовымі ўладамі і ўстановамі, можа аказваць уплыў на самаўрад, пакіраваць выбарамі ў яго і г. д. Толькі павятовы камітэт можа аб'яднаць сілы сялянства на прасторы ўсяго павету і пакіраваць іх на належны шлях у момэнт змаганьня ці то з надужыцьцямі адміністрацыі, ці з вызыскам абшарнікаў, якія цяпер усё больш задзіраюць галаву, спадзяючыся на ўрад „маральнае санацыі“. І праз гэты цэнтр кожын гурток можа выявіць сваю ініцыятыву ў кожнай грамадзкай справе шырэйшага значэньня, чым межы дзейнасьці гуртка.

Арганізацыя павятовых камітэтаў Грамады меціме гэтак і агульна-грамадзкую вагу, як новая магчымасьць выяўленьня самадзейнасьці насяленьня ўжо не паасобных вёсак ці гмін, а цэлых аб'яднаных паветаў. Дык з тым вялікшай цікавасьцяй мусяць аднясьціся сябры гурткоў Грамады да ладжаных павятовых зьездаў, — мусяць, як сьлед, падрыхтавацца да іх, абдумаць спосабы такое шырокае працы, апрацаваць плян далейшае работы ў павеце, плян выкарыстаньня ўсіх грамадзкіх сіл у змаганьні за зьдзейсьненьне партыйных лёзунгаў і праграмы.

## Зямля і падаткі.

Каапэратыўная часопісь „Spółnota“ ў № 31 з 1 жніўня друкуе вельмі цікаўныя цыфры, з якіх відаць, як несправядліва раскладзены ўсялякія дзяржаўныя падаткавыя цяжары на сялян і буйнейшых земляўласьнікаў. Падаем зьмест стацьці органу спажыўцоў.

Нядаўна апублікаваны вельмі цікаўныя даныя аб тым, колькі зямлі выпадае на гаспадаркі, падзеленыя—залежна ад іх абшару — на сем групаў. Даныя гэтыя датычаць усяе Польшчы, апрача зямель, на якіх не адбываўся сьпіс насяленьня, праведзены 30 верасьня 1921 году, а іменна: апрача Верхняе Сілезіі, далучанае да Польшчы толькі 15 чэрвеня 1922 г., і Віленшчыны, далучанае 18 красавіка 1922 г.

Вось-жа сьпіс насяленьня паказаў, што найбольшую лічбу зямельных гаспадарак складаюць найдрабнейшыя гаспадаркі, і лічба гаспадарак у кожнай з гэных групаў зьмяншаецца ў меру таго, як расьце сярэдняя лічба гэктараў у гаспадарках кожнае групы. Вось цыфры, якія гэта паказуюць.

У-ва ўсей Польскай дзяржаве істнуюць 3,261,909 гаспадарак, якія дзеляцца гэтак:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| I група: | — да | 2 гэкт. | — | 1.108.758 | гасп. |
| II „ | ад 2 да | 5 „ | — | 1.001 851 | „ |
| III „ | ад 5 да | 10 „ | — | 733.256 | „ |
| IV „ | ад 10 да | 20 „ | — | 311.529 | „ |
| V „ | ад 20 да | 50 „ | — | 76.436 | „ |
| VI „ | ад 50 да | 100 „ | — | 11.163 | „ |
| VII „ | больш за | 100 „ | — | 18.916 | „ |

Як бачым, чым большыя гаспадаркі, тым лічба іх меншая. І зусім малая лічба людзей-абшарнікаў трымае найвялікшы прастор зямлі. Гэта йзноў паказуюць цыфры:

| Група: | Лічба гаспадарак: | Усяго маюць зямлі: | У % % |
|---|---|---|---|
| VI | 11.163 | 754.880 | 2,5 |
| I | 1.108.758 | 1.075.610 | 3,5 |
| V | 76.436 | 2.141.374 | 7,1 |
| II | 1.001.851 | 3.432.560 | 11,3 |
| IV | 311.529 | 4.190.220 | 13,8 |
| III | 733.256 | 5.156.848 | 17,0 |
| VII | 18.916 | 13.589.177 | 44,0 |

Гэткія зямельныя адносіны выявіў сьпіс насяленьня для таго абшару Польшчы, на якім быў праведзены гэны сьпіс у 1921 годзе. У паасобных краінах ён выглядае крыху йнакш. Прыкладам, на Усходніх Крэсах (на Беларускіх і Украінскіх землях) гаспадаркі групы VII (вялікшыя за 100 гэкт.) займаюць 54,3% усяе зямлі ў усходніх ваяводзтвах, а ў Пазнаншчыне—52,1%. На ўсіх гаспадароў першых трох групаў (да 10 гэкт.) на ўсю Польшчу лікам 2,843,865 выпадае зямлі толькі 10,665,018 гэктараў (31,8%, або менш траціны ўсяго зямельнага абшару Польшчы). На ўсе-ж другія групы (больш за 10 гэкт.), да якіх належаць усяго 418,044 гаспадаркі, выпадае 19,685,651 гэкт. (або 68,2%—дзьве траціны ўсяго зямельнага багацьця). Раўнуючы I групу з VII, убачым, што **1 міліён 108 тысяч 756 малазямельнікаў**, з якіх кожын мае **менш за 2 дзесяціны**, маюць разам усяго толькі **1 міліён з нечым гэктараў**; а вось на няпоўныя **19 тысяч абшарнікаў** (больш 100 гэкт. на кожнага) выпадае **13 з паловай міліёнаў гэктараў зямлі!**

З гэтага ўкладу зямельных адносінаў трэба было-бы зрабіць вывад, як мусяць быць раскладзены ў Польшчы падатковыя цяжары і павіннасьці, каб сыстэма раскладкі была справядлівая. Бо-ж тры першыя групы гаспадарак, апрача дзяржаўных і самаўрадавых падаткаў, апрача дарожных і падводных павіннасьцяў, запаўняюць бадай выключна сваімі рэкрутамі польскую армію і ў часе вайны плацяць найвялікшы падатак—падатак сваей крыві, але адначасна блізу нічога ад дзяржавы за ўсё гэта не дастаюць. Наадварот, усе больш заможныя групы запаўняюць сваімі прадстаўнікамі... дзяржаўныя і самаўрадавыя ўстановы (ім даходаў з зямлі йшчэ мала!), бяруць тамака добрыя пэнсіі, зарабляюць ад дзяржавы пры казённых даставах, карыстаюцца дзяржаўным крэдытам і ўсялякімі прывілеямі...

## ППС і „Крэсы“.

Ведамы пэпэсаўскі правадыр п. Голувко, які наагул вельмі цікавіцца справамі „ўсходніх крэсаў“ ды зрабіў па іх абшарах некалькі падарожаў, зьмясьціў у месячніку „Droga“ вялікшы артыкул пад загалоўкам: „Мэтоды і шляхі аздараўленьня адносінаў у ўсходняй Галіцыі і ў усходніх ваяводзтвах“.

Артыкул варты ўвагі дзеля дзьвюх прычын. Перадусім—з увагі на ўласьцівы пяру п. Голувко талент, з якім аўтар рысуе страшныя абразкі пануючых у нас дзікіх адносінаў. Гэта — сільная старана артыкулу, вартасьць якое збольшываецца яшчэ тым, што піша тут „казённы сацыяліст“, і западозрыць яго ў лішняй сымпатыі да „інародцаў“—нельга!

Іншая рэч, што тым-жа самым артыкулам п. Голувко выдае сабе адначасна пасьведчаньне ідэйнае беднасьці, сцьвярджае яшчэ раз, як далёка адыйшлі правадыры „Польскай Сацыялістычнай Партыі“ ад... сацыялізму. Бо-ж ён ня выходзіць, як гэта трэба было-б вымагаць ад запраўднага сацыяліста, з погляду **правоў беларускіх і інш. меншасьцяў на нацыянальную свабоду, на самаазначэньне ўключна да адзяленьня**, а з погляду інтарэсаў буржуазнай Польшчы.—Буржуазнай, бо рэвалюцыйная, работніцка-сялянская Польшча будучыны—не зацікаўлена наагул у калёніях. Яна ня будзе толькі зьмягчаць скандальных гвалтаў, а парве з імі рашуча, дый яна ўжо цяпер змагаецца за гэта.

Але вернемся да зьместу артыкулу.

„Усходнія ваяводзтвы і Галічына папросту адданы на жэр няздарнай ды дурной бюракратыі, якая сваю ўладу абаперла на—канфіскаваньні часопісяў, зачыняньні таварыстваў, спыняньні культурнага, палітычнага і грамадзкага жыцьця ўкраінцаў і беларусаў... Словам, фактычна ўлада ўся апынулася ў руках паліцыі ды пракурораў. Гэтая дурная палітыка, скіраваная проці ўкраінцаў і беларусаў, спіхала Польшчу ў прорву, бо мільённыя масы пачалі ненавідзець ня толькі дурную ды грубую польскую бюракратыю, але і самую польскую дзяржаўнасьць“...

Да гэтай слушнай характэрыстыкі сучаснай польскай улады на „Крэсах“ мы ад сябе тут не дадамо ніводнага слова...

Дык, калі Польшча ня хоча „ляцець у прорву“, кажа далей п. Голувко, трэба нешта хутка і рашуча рабіць.

„Урад праф. Бартля, здаецца, уцяміў гэта (?). І таму ў усходніх ваяводзтвах мусяць прыйсьці радыкальныя і хуткія рэформы. Першым чынам мусіць прыйсьці санацыя і направа істнуючых адносінаў, павінен быць паложаны канец ўсей тэй сыстэме крыўдаў, якая панавала дагэтуль на „Крэсах“ і ў Галічыне. Як залог гэтай зьмены, павінна прыйсьці безадкладная зьмена ўсіх вышэйшых урадоўцаў на „Крэсах“ і ў Галічыне. Ня можна там пакінуць ніводнага ваяводы, ніводнага пракурора, ніводнага школьнага куратара, бо адміністрацыя, суды і школьная ўлада там скампрамітаваны дарэшты. Толькі зусім новыя людзі здолеюць вычысьціць тую „Аўгіяву стайню“, якую складаюць гэныя чысьленыя сучасныя старосты, школьныя інспэктары, сьледчыя судзьдзі, падпракуратары, шэфы палітычнай паліцыі і г. д. Гэта ёсьць **мус**, гэта—дзяржаўная канешнасьць і кожны дзень адцягіваньня прыносіць нячуваныя шкоды“.

Але і гэтай зьмены—яшчэ мала, кажа далей п. Голувко. — „Трэба, каб на мейсца звольненых бралі на дзяржаўную службу ўкраінцаў і беларусаў.—Украінцы і беларусы маюць ужо значную лічбу юрыстаў, дактароў, аграномаў, інжэнераў, сярод якіх можна выбраць здольных і добрых урадоўцаў, судзьдзяў і пракурораў“...

Далейшым спосабам аздараўленьня адносінаў аўтар лічыць хутчэйшае разьвязаньне справы самаўрадаў. „Самаўрады — падстава дэмакратычнай дзяржавы“, а на „Крэсах“ назначаныя старостамі войты і камісары — „пачуваючы сябе бяскарнымі, зьдзіраюць скуру з насяленьня, практыкуючы хабарніцтва ды зладзейства“...

У канцы аўтар кажа аб тым, „якім дурным і адначасна вышукана-зласьлівым спосабам“ руйнавалася ды руйнуецца ўкраінскае і беларускае школьніцтва... „Інтэрэсам польскае дзяржаўнасьці, кажа аўтар, ёсьць не накідаць мяйсцоваму насяленьню польскай школы“. І так далей, і так далей...—Рэчы ўсё—ясныя, усім ведамыя.

Што-ж: паглядзім, як на дзеле будуць пасьля артыкулу пана Голувкі змагацца за гэтыя мінімальныя пробы нац. меншасьцей паны пэпэсы!

Не гаварыце, а рабіце, паны!

Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаёмаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!

# У Польшчы.

### Першы дэкрэт прэзыдэнта.

Першым дэкрэтам прэзыдэета — на падставе зьмененай Канстытуцыі і закону аб паўнамоцтвах—праведзены закон аб „арганізацыі найвышэйшых ваенных уладаў“. Дэкрэт уводзіць у армію новае становішча — генаральнага інспэктара (наглядчыка) арміі, якім мае быць марш. Пілсудскі. Ведама, што гэты закон аб вышэйшых уладах у арміі шмат часу ня мог нарадзіцца на сьвет, бо марш. Пілсудскі трэбаваў у ім таго, на што не згаджаліся—ані ваенныя міністры, ані Сойм і Сэнат. Цяпер, маючы сваю руку-ўладыку ў Польшчы, Пілсудскі правёў усё, як хацеў.

Ген. Інсп. Арміі—ў часе вайны мае быць Вярхоўным Камандзірам арміі. У мірныя часы ён замяшчае ваеннага міністра ў справах падрыхтоўкі аружных сілаў дзяржавы—да аружнага канфлікту; ён апрацоўвае ўсе мабілізацыйныя і апэрацыйныя пляны; яму беспасрэдна падпарадкаваны начальнік Ген. Штабу і ўсе інспэктары арміі, з сваімі штабамі; усе вышэйшыя назначэньні ў арміі ваенны міністар вырашае ў паразуменьні з Генэральным Інсп. арміі. Гэткім чынам ваенны міністар—толькі лучнік між гэтым фактычным камандзірам арміі і Радай міністраў...

Генар. Інспэктар перад Соймам не адказвае: за яго адказвае ваенны міністар.

### Памоцнікі Пілсудскага.

У сераду 11 жніўня мела адбыцца паседжаньне рады міністраў, на якім аканчальна павінен быў прыняты тэкст дэкрэту прэзыдэнта ў справе стварэньня так зван. „Рады Праўнай“, зложанай з юрыстаў-спэцыялістаў. „Рада“ мае мэтай рэдагаваньне ўсіх дэкрэтаў прэзыдэнта з пункту гледжаньня юрыдычнага. Пастановы яе, зразумела, маюць толькі дарадчы характэр. Абедзьве рады — міністраў і юрыстаў — і маюць больш заступаць высланы марш. Пілсудскім „на спачынак“ польскі парлямант...

Але міністры неяк не сьпяшаць з гэтай „Радай“, бо цяпер толькі паехаў у отпуск міністар справядлівазьці Макоўскі, які „творыць“ Раду. Дык толькі праз 3 тыдні ён вярнецца, і тады будзе ўстаноўлены склад „Рады“. А пакуль што і бяз юрыстаў сьпечана некалькі дэкрэтаў.

### Новая ўрадавая партыя.

Лічба „ўрадавых партыяў“ у Польшчы расьце, як грыбы — пасьля... крывавага маёвага дожджу! „Рэчпаспаліта“ паведамляе, што „кракаўскія кансэрватысты“, віленскія манархісты-абшарнікі і варшаўскія „хрысьціянскія“ дубадэкі (група Строньскага) маюць аб'яднацца ў адзіную партыю з мэтай адбудаваць манархію ў Польшчы.

Акцыю гэту быццам падтрымліваюць некаторыя сябры ўраду Бартля (Пілсудскага). Астаецца толькі, каб партыя выставіла і канкрэтную кандыдатуру манарха, якога можа і ня будуць ужо больш шукаць па розным Італіям ці Гішпаніям, калі есьць нічым ня горшы—краёвага вырабу!

### Распрадаюць наша багацьце.

Польскі ўрад мае зрабіць важныя ўступкі і палёгкі англійскай кампаніі, якая рабункова зьніштажае багацьце нашага краю—Белавежскую Пушчу.—За прыязьнь практычных англійцаў, ведама, трэба плаціць... Дык і плацяць — коштам нашага краю.

### Вольны гандаль валютамі.

Міністэрства фінансаў мае загадаць ад 15 жніўня—вольны гандаль чужымі валютамі ў краі.

### Галадоўка ў Луцкім вастрозе.

11 жніўня мы атрымалі ад Міжпартыйнага Сэкрэтарыяту дзеля змаганьня за амністыю з Варшавы гэткую тэлеграму:

Восьмы дзень трывае галадоўка 317 палітычных вязьняў у Луцку, на Валыні. Большасьць галадаючых арыштавана на падставе правакатарскіх даносаў у часе масавых арыштаў, выкліканых ведамым правакатарам Янцэвічам. Галадаючыя знаходзяцца пад сьледзтвам 15 месяцаў. Яны дамагаюцца: актаў абвінавачаньня, лекарскае помачы (палова галадаючых — хворыя), дапушчэньня газэт і бачаньня з сваімі бяз кратаў.

У справе галадоўкі выступалі з інтэрвэнцыяй у першы-ж дзень яе дэпутаты Пашчук і Прыступа, а на 8-мы дзень — дэпутат Бальлін (ад імя міжпартыйнага сэкрэтарыяту дзеля змаганьня за амністыю). Галадоўка трывае. Вязьні ізаляваны. У гмах вастрогу не дапускаюць ані сямей, ані афіцыяльнага вастрожнага патронату. Вонкі даходзяць з вастрогу толькі крыкі і енкі, якія раздаюцца ў часе штучнага кармленьня, якое робіцца гвалтам.

Адносіны ў Луцкім вастрозе характэрызуе факт, што падчас галадоўкі ў жніўні 1925 году быў забіты вастрожнай вартай палітычны вязень Канстанцін Чвалінскі.

### Забастоўка ў Лодзі спынена.

10 г. м. віцэ-ваявода Оссоліньскі папрасіў да сябе прадстаўнікоў бастуючых работнікаў, ды абяцаў ім ад імені ўласьнікаў значныя ўступкі.

Для вырашэньня магчымых спораў пры зьдзейсьненьні абяцанак—паклікана спэцыяльная мешаная камісія. Забастоўка ў той-жа дзень ў 6 гадз. ўвечары спынена.

### Салдаччына шалее.

Ня так даўно расшаленыя вайсковыя асаднікі кідалі бомбы, калі ім што нёбудзь не падабалася, у беларускія хаты, дзе адбываліся вясельле ці ігрышчы. Цяпер чарга дайшла і да польскіх. У Сьвянцянах у ноч на 8 жніўня ў казыно, дзе адбываўся баль мяйсцовых урадоўцаў, прыйшоў харунжы 5 паўка легіенаў. Калі яго запыталіся, чаму ён няпрошаны прыйшоў, дык той, разазлаваўшыся ды не цэрамонячыся—кінуў 2 ручныя гранаты, пасьля чаго сам сябе падстрэліў з карабіна. На забаве было каля 50 асобаў; на шчасьце ніхто выбухшымі бомбамі ранены ня быў. З харунжым прыйшло яшчэ 3 яго таварышы з таго-ж паўка, якія ўсе арыштаваны.

Мы заўседы кажам, што усе, што таляруецца ўладай адносна да беларусаў, пасьля спадае на карк і саміх „прыроджаных“. Каторы гэта ўжо выпадак расшаленасьці вайсковых ад „маевага пераВароту“.

# Заграніцай.

### Літоўскія манэўры.

У Аранах пад польскай граніцай пачаліся вялікія манэўры літоўскіх войск,—як пішуць польскія газэты, манэўры адбываюцца „пад кіраўніцтвам нямецкіх афіцэраў“.

### Хатняя вайна ў ССРР.

Радавы пасол у Варшаве п. Войков, у сувязі з сэнсацыйнымі весткамі, рассыланымі нейкім „Усходнім Агенствам“,—аб тым, што робіцца ў ССРР,—запрасіў да сябе прадстаўнікоў варшаўскай прэсы, каб паведаміць іх аб запраўдным стане рэчаў. Сабралося шмат журналістаў, якім пасол заявіў, што ўсе весткі аб „паўстаньнях“ ды „хатняй вайне“ папросту выссаны з пальца.

Пасьля агляду палітычнай сітуацыі, пасол ССРР даў агляд гаспадарчага палажэньня ССРР, якое пасьля леташняга крызісу цяпер значна папраўілася.

### Адказ Чычэрына пэкінскаму ўраду.

На дамаганьне пэкінскага ўраду — аб адазваньні радавага пасла Карахана — Чычэрын каротка адказаў, што, калі кітайскі ўрад будзе настаіваць на сваім дамаганьні, дык Радам астанецца толькі ўзяць назад сваё прызнаньне сучаснага кітайскага ўраду і... пачакаць, пакуль ня дойдзе да ўлады ў Кітай новы ўрад.

### Мірныя трактаты, або ахарона награбленага.

Толькі-што падпісаны француска-румынскі Трактат прыязьні і нэйтралітэту. Трактат мае на мэце — дык ясна-ж!—„утрыманьне міру на Балканах“ і дзеля гэтага „гарантуе“ Румыніі яе сучасныя граніцы, ці інакш — захопленую гвалтам Бэсарабію. Што гэты „мірны“ трактат дае лішні шанс дзеля выбуху вайны, гэта—ясна, бо Бэсарабія не зрачэцца сваіх правоў на вызваленьне!..

### Пасьля францускай „гарантыі“.

Не пасьпелі яшчэ падсохнуць падпісы на француска-румынскім „гаранцыйным трактаце“, як румынскі ўрад ужо паслаў 2 палкі на радавую граніцу. Урад тлумачыць гэтую меру тым, што — у зьвязку з „пераваротам у ССРР“ — у Румынію можа кінуцца хваля бежанцаў з Усходу.

### Новы „камуністычны замах“ у Баўгарыі

Баўгарскія ўлады выкрылі быццам падрыхтаваны плян новых тэрарыстычных замахаў у краі. Быццам уноч на 9-га жніўня цэлае места Філіполь мела быць узарвана ў паветра. Даволі таго, што арыштаваны ізноў 30 асоб, дзеля чаго відаць, і „выкрыты“ ўвесь „плян“. Ці-ж толькі ў Баўгарыі робіцца так?

### Паразуменьне Францыі з Нямеччынай у справе акупацыі.

Францускі ўрад заявіў нямецкаму паслу, што згаджаецца зьменшыць акупацыйную армію ў Надрэніі ды наагул пайсьці на розныя іншыя ўступкі, але пад варункам, што нямецкі ўрад спыніць варожую нацыялістычную агітацыю ў акупаваных абшарах проці Францыі і ня будзе прасьледаваць у звольненых ад акупацыі абшарах нікога з насяленьня (чытай: правакатараў ды шпікоў, купленых францускімі ўладамі).

# Зьбірайце беларускія словы!

**(Інструкцыя да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрміналёгічнага матар'ялу ў беларускай мове).**

Інстытутам Беларускае Культуры ў Менску арганізована сталая Камісія па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы.

У задачы Камісіі ўваходзіць сабраць па магчымасьці ўсе словы, якія ўжываюцца ў сучаснай беларускай, як літаратурнай, так і народнай мове —на ўсёй тэрыторыі этнографічнай Беларусі.

Арганізацыю збору матэрыялаў для гэтага слоўніка ў межах Заходняе Беларусі, што пад Польшчай, узяло на сябе Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні.

Таварыства зварачаецца да ўсіх грамадзян Заходняе Беларусі з просьбай прыняць актыўнае ўчасьце ў працы па ўкладаньню слоўніка жывой беларускай мовы. Няхай кожнае слова, што ўжываецца ў вашай мясцовасьці, хоць і невядомае ў іншых дыялектах беларускай мовы, знойдзе сабе месца на старонках слоўніка.

Запісаць пажадана ўсе словы, якія ўжываюцца ў вашай мясцовасьці. Аднак, паколькі для некаторых асоб немагчыма будзе гэта зрабіць, то пажадана, каб былі запісаны найбольш характэрныя беларускія словы, што ўжываюцца ў вашай мясцовасьці, асабліва ж тыя, якія адрозьніваюцца ад слоў расейскай ці польскай мовы або па вымове або па значэньню.

Ніжэй зьмяшчаюцца пытаньні, якія могуць дапамагаць зьбіраньню слоўнікавага матар'ялу. Але само сабой зразумела, што ў кароткай праграме нельга ахапіць усяго жыцьця прыроды і інтарэсаў чалавека. На пытаньні трэба глядзець толькі, як на накіравальныя й дапаможныя пры зьбіраньні беларускіх слоў. Кожны зьбіральнік слоўнікавага матар'ялу сам можа выбраць тую ці іншую галіну заняткаў чалавека або зьяў прыроды, якая яму найбольш знаёма, і дакладна яе дасьледаваць.

Запісваць трэба ня толькі словы-назовы, але й прыметнікі, дзеясловы і інш. Напр., трэба запісаць ня толькі назву „маруда“, але і „марудзіць“, „марудны“, „марудна“ (на асобных картках з прыкладамі).

Дзеля гэтага ў праграме даюцца пытаньні ня толькі аб іменьніках, але і аб прыметніках, дзеясловах ды іншых часьцінах мовы. Аднак, асабліва да прыметнікаў і дзеясловаў, з прычыны немагчымасьці даць у кароткай праграме іх дакладную клясыфікацыю, трэба падкрэсьліць накіравальны характар пытаньняў.

Маючы сваім заданьнем як мага больш поўную рэгістрацыю слоўнікавага багацьця беларускае мовы, Т-ва просіць запісваць:

**А. Назовы й тэрміны, якія азначаюць розныя зьявы, прадметы й працэсы ў жыцьці прыроды й чалавека.**

1. Назовы нябесных сьвяціл і зьяў, якія знаходзяцца ў сувязі з іх чыннасьцю (назовы зорак, сузор'яў, комэт; зацьменьні сонца й месяца і г. д.).

2. Назовы розных зьяў у паветры. Назовы станаў паветра. Назовы азначэньняў цяпла й холаду, пагоды й нягоды. Назовы хмар, дажджоў, сьнягоў і г. д.

3. Назовы фізычных працэсаў у прыродзе. Назовы працэсаў, якія адбываюцца пры награваньні й астуджваньні, пад уплывам ціску й расьцягваньня і г. д. Назовы хэмічных працэсаў (гніцьцё, розныя фэрмэнтацыі і г. д.).

4. Назовы форм земнай паверхні й працэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з яе зьменай (шчыліны, апоўзкі земнай паверхні і г. д.), назовы гор, узгоркаў, далін, лагчын, яроў. Назовы наземных (рэчка, багна, возера) і падземных (крыніца, ручай) вод. Назовы берагоў, астравоў, заток і інш.

5. Назовы розных земных парод і пластоў, іх формы й пабудовы. Назовы мінэралаў і мэталаў. Назовы розных капальняў і руд. Назовы розных акамянеласьцяй.

6. Назовы розных расьлін (дрэвы, травы, кветкі, ягады, грыбы). Назовы часьцін расьлін (ліст, корань, насеньне, кара і г. д.). Назовы зьяў з жыцьця расьлінаў (красаваньне, выплываньне і г. д.).

7. Назовы розных жывёл (зьвяры, хатнія жывёлы, птушкі, рыбы, гады, казяўкі і інш.). Назовы часьцін цела жывёл (морда, сківаца, вантробы, хвост, кіпці і г. д.).

8. Назовы часьцін цела чалавека й працэсаў, што адбываюцца ў розных органах (мозаг, тулава, вока; дыханьне, страваваньне, псыхічныя працэсы і г. д.).

9. Назовы, якімі азначаюцца асаблівасьці фізычнага тыпу чалавека, напр., самыя розныя віды калецтва.

10. Назовы розных нацыянальнасьцяй, а таксама племенных і мясцовых груп (цыганы, маскаль, лях, мазур, пінчук, вілянчук і г. д.).

11. Назовы хаты і іншых відаў будоўлі (стадола, восець, сьвіран і г. д.). Назовы складаных часьцін будоўлі (страха, шчыт, балька і г. д.).

12. Назовы хатніх прылад. Назовы мэблі ды прылад для ежы, адпачынку, мыцьця і г. д.

13. Назовы адзежы й абутку. Назовы матэрыяў самаробных і куплёных.

14. Назовы розных напояў і страў.

15. Назовы раместваў і тэхнічных вырабаў. Назовы струмэнтаў, рэчаў і спосабаў вырабу (кросны, ступа, млын; алейніцтва, гутніцтва і г. д.).

16. Назовы земляробскіх работ, прылад і машын. Назовы спосабаў вырабу зямлі й сыстэм земляробства.

17. Назовы, якія ўжываюцца пры паляваньні й рыбных ловах. Назовы прылад (пастка, таптуха, венцер, вуда і г. д.) і спосабаў паляўніцтва (аблава, засада і г. д.).

18. Назовы заняткаў, зьвязаных з гадоўляй жывёлы (малачарства, сьвінарства, пчалярства, канавальства і г. д.).

19. Назовы, што ўжываюцца ў лясной гаспадарцы.

20. Назовы прылад і матар'ялаў асьвятленьня і апалу.

21. Назовы, датычныя да вайны. Назовы ві-

# З жыцьця „Грамады“.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

81. У вёсцы **Страшаве**, Ялоўскае гм., Ваўкавыскага пав., 24 га ліпня г. г. з'арганізаваны Страшаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

82. У вёсцы **Куцавічы**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав., 27 га г. г. з'арганізаваны Куцавічаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

83. У вёсцы **Н.-Руткавічах**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав., 25-га г. г. з'арганізаваны Н.-Руткавічаўскі Гурток Белар. Сялян. Работ. Грамады.

84. У вёсцы **Валенчыцы**, Борка-Гічыцкае гм., Косаўскага пав., 25-га г. г. з'арганізаваны Валенчыцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

85. У вёсцы **Стачан**, Белавежскае гм., Бельскага пав., 28-га ліпня г. г. з'арганізаваны Стачацкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

86. У вёсцы **Васіліны**, Пастаўскае гм., Пастаўскага пав., 18 га г. г. з'арганізаваны Васілінскі Гурток Белар. Сялян. Работ. Грамады.

87. У вёсцы **Н.-Сьвідзілаўцы**, Шудзялаўскае гм., Сакольскага пав., 25 га г. г. з'арганізаваны Н.-Сьвідзілаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

88. У вёсцы **Руткавічы-Зарэчча**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав., 18-га г. г. з'арганізаваны Рутковіча-Зарэччанскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

89. У вёсцы **Агароднікі**, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав., 26-га г. г. з'арганізаваны Агародніцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

90. У вёсцы **Сьнежычах**, Райцанскае гм., Наваградзкага пав., 4-га ліпня г. г. з'арганізаваны Сьнежыцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

91. У вёсцы **Пачуйкі**, Гудзевіцкае гм., Гарадзенскага пав., 25-га ліпня г. г. з'арганізаваны Пачуйкаўскі Гурток Белар. Сялян. Работ. Грамады.

92. У вёсцы **Некрашэвічы**, Жухавіцкае гм., Стаўпецкага пав., 19 га г. г. з'арганізаваны Некрашэвіцкі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

93. У вёсцы **Чамяры**, Чамерскае гм., Слонімскага пав., 25 га ліпня г. г. з'арганізаваны Чамерскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

94. У вёсцы **Краснае**, Беліцкае гм., Лідзкага пав., 25-га ліпня г. г. з'арганізаваны Краснаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

95. У хутарох **Вострава**, **Мошкі** і інш., Старавейскае гм., Слонімскага пав., 29-га ліпня г. г. з'арганізаваны М.-Вастраўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

96. У вёсцы **Засьценкі**, Лебедзеўскае гм., Маладэчанскага пав., 1-га жніўня г. г. з'арганізаваны Засьценкаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

97. У вёсцы **Горныя Руткавічы**, Карэліцкае гм., Наваградзкага пав., 25-га ліпня г. г. з'арганізаваны Горна-Руткавіцкі Гурток Белар. Сял.-Раб. Грамады.

98. У вёсцы **Вітава**, Орлянскае гм., Бельскага пав., 1-га жніўня г. г. з'арганізаваны Вітаўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

**Згублены дакумэнт.** Згублены партыйны білет за № 1763 на імя Зрайкоўскага Андрэя — **уневажняецца.** Новы партыйны білет выдаецца за № 4162.

# Грамадзяне!

Запісвайцеся ў сябры Таварыства Беларускае Школы ў Вільні.

Арганізоўвайце на мясцох Гурткі і Акружныя Упра‹в›ы, як аддзелы Таварыства Беларускае Школы ў Вільні!

Закладайце прыватныя беларускія школы, бібліатэкі, чытальні, народныя дамы Таварыства Беларускае Школы!

Складайце дэклярацыі Школьнаму Інспэктару, каб улада адчыняла ўрадовыя беларускія школы і ператварала істнуючыя польскія на беларускія.

**Увага:** Дэклярацыі штогод трэба складаць да 31 сьнежня (декабря) такім самым парадкам, як і ў 1926 годзе.

Форма заявы.

У Галоўную Управу Таварыства Беларускае Школы ў Вільні Віленская 12.

Грамадзянін в. . . . . . . .
гміны . . . . . . . . . . . .
павету . . . . . . . . . . .
імя і прозьвішча . . . . . .

ЗАЯВА.

Далучаю пры гэтым „ . . . “ злотых сяброўскае складкі, прашу Галоўную Управу залічыць мяне ў Сябры, Т-ва і выдаць мне сяброўскі білет. Гэтым абавязуюся выконваць усе вымаганьні статуту, пастановы Агульнага Сходу і Галоўнае Управы Т-ва. Зьмест § 12 статуту мне ведамы.

Подпіс . . . . . . . . . . .

Дня „ “ . . . . 1926 г.
пошта . . . . . . . . .

Выпісвайце з Галоўнае Управы ў Вільні Статут і інструкцыі Т-ва Беларускае Школы, школьныя дэклярацыі і інструкцыі, як іх складаць.

Статут і Інструкцыя разам каштуюць 30 гр. На перасылку простым лістам трэба прысылаць паштовых марак на 16 грошаў, заказным 46 гр.

**Адрэс: Вільня, Віленская 12—6.**

## Капіталісты ня гуляюць у „ідэалы“.

Гэрой вялікай вайны, былы прэм'ер Клемансо зьвярнуўся да прэзыдэнта Амэрыкі Куліджа з лістам, у якім страшэнна абураецца на тое, што Амэрыка, якая разам з Францыяй білася дзеля вызваленьня сьвету з пад нямецкага бота, цяпер зьдзірае скуру з францускага народу, дамагаючыся руйнуючай край сплаты ваенных даўгоў.

У Англіі, якая таксама была-б рада пазбыцца ўціску дабрадзея-ліхвяра, пісьмо Клемансо зрабіла вялікае ўражаньне.

Нажаль, вось толькі сам Кулідж—дык не зьвярнуў на адозву Клемансо ніякай увагі, заявіўшы, што Клемансо — толькі адстаўны прэм'ер, дык, як прыватная асоба, хай сабе піша, што хоча. Грошы—даражэй за ўсе тыя „ідэалы“, аб якіх піша Клемансо.

## Змова Італіі з Гішпаніяй.

Мусоліні правёў у жыцьцё сваю старую думку аб узмацаваньні ўплываў Італіі ў Сяродземным моры. Італія падпісала ўмову аб згодзе і ўзаемнай нэўтральнасьці з Гішпаніяй. Гэтая ўмова перадусім пагражае ўплывам на сяродземнаморскія справы Францыі.

даў зброі (стрэльба, кулямёт і г. д.). Назовы аддзелаў войска й вайсковых пасад.

22. Назовы, якімі азначаюцца шляхі зносін —сухаземныя й вадзяныя. Назовы спосабаў і прылад язды, плаваньня і г. д.

23. Назовы, якія ўжываюцца пры абмене й гандлі. Назовы месцаў гандлю (кірмаш, рынак, крама і г. д.). Назовы відаў гандлярства. Адзінкі мер. Назовы монэт.

24. Назовы для азначэньня паселішчаў (горад, вёска, хутар, засьценак і г. д.). Назовы відаў вуліцы, плошчаў і г. д.

25. Назовы сьвятаў. Назовы рэчаў забабонаў і культу (шаптуха, залом, абраз, капліца, прошча і г. д.). Назовы, якія ўжываюцца для азначэньня помнікаў мінуўшчыны (курган, замчышча і г. д.).

26. Назовы, якія ўжываюцца пры вясельлі. Назовы вясельных абрадаў ды рэчаў. Назовы асоб, датычных да вясельля.

27. Назовы рэчаў ды абрадаў, якія ўжываюцца пры радзінах і хрэсьбінах.

28. Назовы, якія ўжываюцца пры пахаваньні. Назовы відаў сьмерці. Могілкі.

29. Назовы сваяцтва й сяброўства.

30. Назовы розных прафэсій і заняткаў. Назовы ўлады і службовых асоб. Назовы грамадзянскіх станаў (селянін, пан і г. д.).

31. Назовы юрыдычных паняцьцяў (спадчына, злачынства, забойства, крадзеж, вязень і г. д.).

32. Назовы рэчаў да гадаваньня й выхаваньня. Калыскі. Гульні ды цацкі. Назовы, што ўжываюцца да школы і асьветных устаноў.

33. Назовы, датычныя да мэдыцыны й знахарства. Назовы хвароб і лекаў людзей і жывёлін.

34. Назовы году ды месяцаў. Назовы, якімі азначаецца падзел сутак.

35. Назовы, датычныя да вуснае народнае творчасьці, літаратуры й мастацтва (драўлянае разьбярства, вышыўкі й тканіна, кераміка, музыка ды сьпевы, таццы ды гульні).

(Канец у наступным нумары).

# ХРОНІКА.

**Міжпартыйны Камітэт у Вільні для барацьбы за звальненьне палітычных вязьняў паведамляе, што сэкрэтарыят урадуе ў аўторкі пятніцы ад 10—11 што тыдня. (Antokolska 58, памешканьне пасла Сабалеўскага).**

**Пасольскі мітынг.** У нядзелю 15 жніўся 1926 г. адбудзецца мітынг у м-ку Крынках, Гарадзенскага павету, наладжаны Горадзенскім Павятовым К-м Бел. С.-Р. Грамады.

З прамовамі выступяць: Дэпутат Сойму П. Валошын і старшыня К-ту Мікалай Якімовіч.

Пачатак у 1 гадзіну дня ў мястовай салі.

**Чародная перамога.** Дзякуючы таму, што беларускае грамадзянства (ведама, апрача наймітаў дэфэнзывы з „полёнофільскага“ абозу!) рашуча змагалася проці так званых „утраквістычных“ (двуязычных: польска-беларускіх) школ, — урад, узяўшы назад процізаконны цыркуляр б. мін. Грабскага аб прымусовым спольшчаньні прыватных беларускіх гімназіяў, ідзе на ўступкі і ў гэтай справе. Як падае варшаўскі карэспандэнт „Słowa“, міністар асьветы Суйковскі маніцца ў найбліжэйшым часе **зьліквідаваць „утраквістычныя“** школы на „Крэсах“, уведзеныя тым-жа Грабскім.

**Канфлікт на груньце збору ўраджаю.** Як наказуе „Rzeczpospolita“, у фальварку Юзэфова, пад Лідай, на груньце канфлікту з уласьнікам фальварку грамада сялян не дапускала работнікаў да працы ў полі. Газэта піша аб гэтым вельмі няясна, і трэба думаць, што справа йшла аб недапушчэньні да працы штрэйкбрэхераў. Была выклікана паліцыя, якая і „зьліквідавала“ гэны канфлікт. Як? — і на гэта газэта адказу не дае, але дагадацца можна і так...

**Падаткі і тэрор для нац. меншасьці.** Е. Лапацінскі ў адкрытым пісьмэ, надрукаваным у № 183 „Kur. Wil.“, апавядае, што віленскі магістрат пры спагоне падаткаў праз сваіх сэквэстратараў налічае лішнія грошы „дзеля пастраху нацыянальнае меншасьці“, як заявіў аўтару пісьма заступнік падатковага аддзелу п. Рэнард... Аўтар канчае сваё пісьмо пратэстам проці таго, што „магістрацкія сэквэстратары (а мо' і ўрадавыя) сяньня выступаюць у ролі вывядоўцаў адносна да вызнаньня і нацыянальнасьці, а заўтра мо' і адносна да палітычных паглядаў і маральнасьці падатнікаў“‘!

Ня дзіва: мястовая рада, „выбраня“ за панаваньня пана Юрыя Асмалоўскага шмат лет назад, даўно ўжо ўтраціла свае і без таго сумліўныя мандаты,—але-ж улада церпіць яе іменна за яе „патрыятызм“ і шчодрасьць — з кішані насяленьня!—на ўсякія „патрыятычныя“ штукі.

**Справа Базыльянскіх муроў.** 11 жніўня апэляцыйны суд разглядаў апэляцыйную скаргу паўнамочнікаў ураду на прыгавор віленскага акружнага суда, які прысудзіў кансісторыі Базыльянскія муры, абвешчаныя ўжо ўрадам за ўласнасьць польскае дзяржавы.

Прыгавор будзе аб'яўлены толькі 18 жніўня.

Беларускае грамадзянства з вялікім зацікаўленьнем сочыць за гэтай справай, бо ж у мурох гэных месьцяцца галоўныя беларускія культурныя ўстановы. Апошнім, трэба думаць, і тлумачыцца тая ўпорлівасьць, з якой урад стараецца заўладаць мурамі: бо-ж ужо даўно ўлада патрэбавала праз суд эксмісіі нашых устаноў...

# Да увагі бацькоў.

Беларускае Таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны гэтым паведамляе грамадзян (бацькоў, сваякоў і апякуноў), дзеці якіх былі на выхаваньні **ў беларускім прытулку ў Вільні** (Вострабрамская 9), што, з прычыны адсутнасьці памяшчэньня для прытулку, апошні закрываецца, і дзеці, якія былі ў ім, лічацца звольненымі; адначасна **закрываецца інтэрнат для дзяўчат** пры Віленскай Беларускай Гімназіі. **Застанецца інтэрнат для вучняў-хлапцоў** з платаю сорак зл. у месяц.

**Урад Таварыства.**

**Навая здабыча казённае „уніі“.** У ўнію перайшоў яшчэ адзін былы праваслаўны сьвяшчэньнік Уладз. Леснабродскі. Наскольні цэнная здабыча гэта для Піліпа і рымскага папы, відаць з таго, што гэты Леснабродскі быў пазбаўлены сану Сінодам за поўнае бязверые, кашчунства і распуснасьць, для якой навет не знайшлося названьня ў царкоўных канонах.

**Ізноў Наўменка і Швэдка.** Вярнуўшыяся з піліпаўскай уніі ў праваслаўную царкву сьвяшчэньнік Наўменка і псаломшчык Швэдка, відаць, не здаволеныя іх спатканьнем з боку царкоўных уладаў, маюць, як пішуць газэты, ізноў вярнуцца да Піліпа. Яны ходзяць ізноў да Піліпа, якому кажуць, што іх паварот у праваслаўе меў толькі мэтай ашельмаваць яго мяйсцовыя ўлады і г. д... І з гэткімі людзьмі лічацца.

**Афіцыяльны курс грошы на 12-га жніўня.** Даляр—8 зл. 98 гр. Залаты рубель — 4 зл. 63 гр.

12. VIII на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,05. Зал. руб. 4,73. Чырвонец 43,50.

**У справах арганізацыі на мяйсцох Гурткоў**

**Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады**

**належыць зьвяртацца па адрэсу:**

**Wilno, ul. Wileńska Nr. 12, m. 7**

**Цэнтральны Сэкрэтарыят Грамады.**

**У Сэкрэтарыяце можна даставаць асабіста і выпісываць адтуль кніжкі прамоваў паслоў Грамады, дэклярацыі, праграму і арганізацыйны статут Грамады, інструкцыю, цыркуляр № 1, кратні „Запросінаў“, квітарыюшы і інш.**

**Сэкрэтарыят Грамады адчынены ад 7 гадз. раніцы да 10 вечара што-дня, не выключаючы сьвятаў.**

# З жыцьця Горадні.

× **Галадоўка ў горадзенскім вастрозе.** Палітычныя вязьні Акулко, Шварц і Бабрукевіч у свой час пробавалі ўцякаць з слонімскай турмы, дзе яны сядзелі. Пабег ня ўдаўся, і вязьняў перавялі ў Горадню, пасадзіўшы іх за кару супольна з крымінальнымі. Тут з няведамых прычын Акулку і таварышоў крымінальныя пабілі, дзеля чаго палітычныя вязьні зьвярнуліся да адміністрацыі вастрогу з дамаганьнем, каб іх перавялі ў асобны корпус.

Інспэктар просьбы іх не задаволіў.

Тады гэныя тры палітычныя вязьні аб'явілі былі галадоўку. Калі ўжо галадоўка іх трывала тры дні,—другія палітычныя вязьні, убачыўшы, што іх таварышы памруць,—усе, як адзін, аб'явілі 3 жніўня агульную галадоўку. Тады толькі вастрожная адміністрацыя перавяла гэных вязьняў у адзіночны корпус.

Але на гэтым справа ня спынілася: да галадоўкі палітычных вязьняў прылучылася частка крымінальных (угалоўных), ды яны ўсе разам — лікам 300 душ—выставілі наступныя дамаганьні:

1) Вярнуць вязьням: Бобрукевічу, Акулко і Шварцу правы палітычных, якіх яны пазбаўлены дзеля таго, што ўцякалі з вастрогу ў Слоніме.

2) Выдаліць старшага даглядчыка Бухвальда, які зварачываецца да вязьняў не палюдзку (трэ' падкрэсьліць, што гэны даглядчык Бухвальд быў засуджаны за крымінальныя справы і сядзеў у Беластоку ў вастрозе).

3) Палепшыць ежу, бо вельмі брудна на кухні і вараць бульбу з лупінамі.

4) Выдаць сьвежую салому ў сяньнікі, бо ўжо 8 месяцаў, як не зьмянялі, дык салома зрабілася, як сечка.

5) Выдаліць даглядчыка Панасюка з кухні, бо гэны даглядчык корміць сабак і сьвіней малаком і іншымі прадуктамі коштам вязьняў.

6) Палепшыць усе іншыя жыцьцёвыя варункі.

7) Паклікаць у вастрог пракурора.

**Вязень.**

× **Інтэрвенцыя ў справе галадоўкі вязьняў.** 7 жніўня с. г. дэлегацыя ад імя „Грамады" ў складзе: Старшыня К-ту Мікалай Якімовіч і сябра Янка Барада —зьвярнулася да віцэ-пракурора Мюльлера з запытаньнем: Ці ведама п. пракурору аб галадоўцы вязьняў, якая трывае ўжо 5 дзён, і што пракуратура маніцца ўчыніць дзеля паляпшэньня быту вязьняў і ліквідацыі галадоўкі?

Пан пракурор заявіў, што аб-галадоўцы вязьняў яму ведама, і тыя дамаганьні, якія выстаўлены вязьнямі, часьцю споўнены, а часьць дамаганьняў, якія на погляд пракурора зьяўляюцца няслушнымі, ня можа быць споўнена.

На запытаньне дэлегацыі, якія трэбаваньні пракурор лічыць няслушнымі, пан пракуратар выясьненьня ня даў. **Нёман.**

# Карэспандэнцыі.

## Далоў страх!

(в. Жухавіцы, Стаўпецкага павету).

1 ліпня 1926 году стварыўся ў нашай вёсцы Гурток Грамады, у які запісаліся адразу 12 чалавек. Дзякуючы няўпыннай працы, ужо цераз 3 тыдні мы мелі ў Гуртку 48 асоб. З гэтакім лікам сяброў пастанавілі зрабіць агульны сход Гуртка.

Каб ня было ніякіх перашкодаў з боку паліцыі, мы за 3 дні да сходу занясьлі камэнданту нашага пастарунку паведамленьне; камэндант, ведама, паведаміў аб гэтым старасту Стаўпецкага пав., які прыслаў у нашую вёску кіраўніка экспозытуры палітычнае паліцыі, ці папросту кажучы — камэнданта ўсіх шпікоў Стаўпецкага пав. Кіраўнік адразу паклікаў сэкрэтара Гуртка гр. Ігната Марцінеўскага на „бадане", на якім дамагаўся сьпісу сяброў; але, нічога не адтрымаўшы, сказаў, што сабраньне адбудзецца, а ён сам будзе прадстаўнікам ад Старсства.

У дзень сабраньня ў нядзелю 25 ліпня прыехаў з Стаўпцаў другі камэндант — на гэты раз дзяржаўнае паліцыі Стаўпецкага пав. Ён сказаў, што прывёз пазваленьне на сход ад Староства, ды так сама будзе прадстаўніком. Мусіць, думаў Стараста гэтымі камэндантамі запалохаць сялян, каб баяліся йсьці на сабраньне, а нашая вясковая чорная сотня ў асобе ўсёй вёсцы ведамага панскага падлізьніка, гміннага пісарчука Івана Берасьневіча, пачала сваю дзеяльнасьць ў гэтакім-жа напрамку, як і п. Стараста. Гэты „паўпанок" Берасьневіч хадзіў па падвоканьню і страшыў людзей, што, калі хто пойдзе, дык там-жа па сходзе будзе арыштаваны. Але відаць, сяляне ня дужа спалохаліся паноў камэндантаў і пагрозаў арыштам, бо каму былі запросіны, — ўсякі йшоў. Калі гэткая правакацыя не памагала, калі сяляне грамадою йшлі на сабраньне, дык пан Берасьневіч затрымоўваў на вуліцы і яшчэ раз страшыў арыштам і, ведама, найбольш баязьлівых так напалохаў, што яны навет у другіх адбівалі ахвоту; але і гэтым ён мала зрабіў, бо з 47 запрошаных асоб на сабраньне з'явіліся 45 асоб.

У 18 гадзін прышлі і паны камэнданты — „przedstawiciele"—і зажадалі павесткі дня, што ім было пададзена. Сход пачаўся дакладамі з месц аб пашырэньні нашай арганізацыі. Пасьля дакладаў слова ўзяў Сэкрэтар Гуртка, які ў кароткіх славах абрысаваў палітычны і эканамічны ўстрой Польшчы і высьвятліў усе зьдзекі над намі польскага буржуазнага Ураду. Далей пагаварыўшы аб сваіх балючых справах і вынясшы пастановы, гр. Сэкрэтар запрасіў усіх, хто жадае быць сябром, падпісаць дэклярацыі (запісалася двох, бо ўсе ўжо былі запісаны) і пасьля кароткай прамовы запрасіў падпісвацца за амністыю для ўсіх палітычных вязьняў, за скасаваньне „даразных" судоў і кары сьмерці. Сход быў зачынены ў 10 гадзін увечары,—ведама, усе прысутныя асталіся жывы—нікога не арыштавалі.

Такім парадкам выйшла наадварот: п. Стараста хацеў запалохаць сялян, каб ня пісаліся ў Гурток, ды прыслаў гэтулькі начальства; але сяляне, сьцяміўшы ўсё гэта, яшчэ ахватней пачалі пісацца ў Гурток і менш пачалі баяцца (на другі дзень запісалася аж 12 асоб зараз), калі пазналі, што наша Грамада — легальная рэч і няма чаго баяцца арышту. **Грамадавец.**

## Пэпэасаўскі мітынг.

(М. Белавежа).

25-га ліпня сёл. г. у м. Белавежы адбыўся палітычны мітынг ППС. Выступалі на мітынгу Дубінскі і Дэмідовіч. Народу было ня многа, дый тыя, што былі, зразумелі мала, бо гаварылі прамоўцы папольску.

На парадку дня было пытаньне аб „нацыянальных меншасьцях", але пэпээсы гэты пункт пасьля зусім выкінулі;—відаць, рабілі гэта толькі „для маркі", а ў душы гатовы яны душыць беларуса, як і польскія буржуі.

Пасьля папрасіў слова прысутны на мітынгу вядомы пагромшчык—Балаховіч. Народ яго зусім не хацеў слухаць і крычаў: „Вон, даволі!". Але ён упёрся, як буйвал, і гаварыў—сьпярша парасейску, а пасьля папольску. Ён казаў, што паліцыя патрэбна; а як сяляне закрычалі: „Ня так многа!", то гэты „бацька" сказаў: „Для быдла трэба многа". Прысутныя былі вельмі ўзбураны ды не давалі яму гаварыць крыкамі: „ганьба, вон!". Крычалі і аб ППС—„здраднікі" і г. д.

Што яны здраднікі, а ня шчырыя змагары, відаць, хаця б з таго, што аб амністыі для палітычных вязьняў ані слова ня ўспомнілі! І гэта зразумела, бо ў вастрогах сядзяць запраўдныя барцы за волю працоўных, а ня здраднікі—пэпээсы.

Мітынг быў „уквечаны" шчыльна настаўленымі шпікамі ды мундзірнай паліцыяй — так, што кожны з прысутных баяўся высказаць свае болькі.

Гэты мітынг пераканаў нас яшчэ раз, што працоўныя, йдучы з пэпээсамі, не даб'юцца лепшай долі.

Мы цяпер пэўны, што, каб здабыць свае правы, трэба арганізавацца ў Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду. **Беразьняк.**

## Культурныя бандыты.

(М. Казлоўшчына, Слонімскага пав.).

У нас у мястэчку ёсьць сэйміковая амбуляторыя, якая абслугоўвае тры гміны. Плата за доктарскі агляд устаноўлена соймікам у разьмеры 1 зл., а для бедных 50 грош. Але, калі доктару трэ кудысьці ад'ехаць, то вымагаюць 20 — 30 зл. Грошай цяпер сяляне ня маюць, дык, калі цяжэй захварэў, то пэўная сьмерць: доктара прывязьці ня можаш, а да доктара павязеш, то па дарозе затрасеш.

Гэтак—пакуль быў доктар. Цяпер доктар выехаў. Засталася фэльчарыца, дык яна новыя парадкі бясправўна навяла. Ад хворага бярэ па 2 зл. і ніякага спуску! Людзі па старому звычаю вязуць 1 зл., або 50 гр., яна трэбуе 2 зл., а ня маеш — вопратку зьдзярэ.

28./VII. с. г. прывязьлі да яе хворае дзіця; яна аглédзіла; селянін меў толькі 50 грош. (паводле таксы), а яна трэбуе 2 зл.—грошай ня было, дык цёплую хустку забрала з дзіцяці. Дзень быў сьцюдзёны, дык дзіця падарозе назад едучы перамерзла і яшчэ горш захварэла; будзе дзіва калі не памрэ.

Раз прывязьлі цяжка хворае дзіця; фэльчарыца ўзяла 3 зл. Дзіця тут-жа памерла. Кабета пачала прасіцца, каб аддала грошы, — трэба на труну, але дзе там! Такі Юда, што не аддала: што злавіла — то яе.

Нядаўна прывязьлі хворую жанчыну і мелі толькі 1 злот. Дык фэльчарыца зьдзерла цёплую хустачку з хворай, а пагода была сьцюдзёная, і без акрыцьця жанчына па дарозе памерла.

Ці гэта ня яўнае забойства хворых? Ці гэта ня зьдзек над працоўным народам? Ці гэтакую „мэдыцынскую помач" мы павінны мець за тыя падаткі, якія гэтак бязьлітасна з нас спаганяюць?! **„Сьвітка".**

## Ксёндз Рачкоўскі.

(Ліпнішкі, Лідзкага пав.).

Наш ксёндз Рачкоўскі нічым ня розьніцца ад усіх гэтых „прарокаў",—пільнуе сябе і свайго кішаня. За запаведзь бярэ 20 зл., за хрышчэньне 7 зл., за хаўтуры 6—13 даляраў, за шлюб 100 зл., і нічога нічагусенькі ня спусьць. Адна бедная ўдава ня мела 50 грошы да пяці злотых, вымаганых ксяндзом за пасьведчаньне аб сьмерці мужа, дык ксёндз Рачкоўскі так і ня даў гэтага пасьведчаньня.

З амбоны да сялян крычыць: „Хамы вы, быдла!—а чаму?—таму, што не складаеце грошай свайму прабашчу!". Вось, як ён трактуе нас сялян. У цемры трымаць ён хоча сялян, бо яму патрэба, каб былі мы паслухмяным быдлам. Навошта — з амбоны крычыць ксёндз—ведаць вам, колькі людзей у якімсьці краі"?—знаць гэтага быццам ня трэба.

Дзеткі нашы дасталі беларускія лемантары і многа за зіму навучыліся—ня тое, што з польскіх. Даведаўся аб гэтым ксёндз Рачкоўскі і зноў крычыць: „той цурны, хто чытае беларускія кніжкі,—бандыт ён—злодзей"!..

Гэтакі ў нас ксёндз. **Полымя.**

## Крадуць.

(Дзісьненскі пав.).

Урад Пархвенаўскай гміны, пад кіраўніцтвам войта Н. Маркевіча задумаў будаваць „школу". Пад гэту будыніну выбралі і „адпаведнае" мейсца — блізкае да касьцёлу. Школа—ведама-ж—мае быць польскай.

Два гады вазілі сяляне дрэва на гэту школу. Вазілі зімой і летам, вазілі к мейсцу будынку і на тартак, дзе яго пілавалі на дошкі, а як прышлося будаваць,—не хапіла дрэва!

Абшарнік Буш, які ад пачатку 1926 г. заняў па прыказу п. старасты пасаду войта, пасьля Маркевіча узноў выдаў загад ехаць па дрэва на граніцу. Здавалася, што ўсё пойдзе, як памасьле, старой дарогай; аж вышла трохі інача́й.

Школу пачалі будаваць па зацьверджанаму начальствам пляну. Згодна з гэтым праектам, быў якімсьці інжэнерам зроблены абрахунак дрэўнага матар'ялу. Лясьніцтва гэту колькасьць матар'ялу п. Маркевічу і К-о выдала з гакам, матар'ял гэты яны з лесу забралі і вывязьлі, як заяўляюць, к будове, але... але пан інжэнер запатрэбаваў яго яшчэ, бо мала! Тут ужо абразіўся пан інжэнер. Пачалася перамерка дрэва на пляцу і.... дрэва, вывезенае з лесу, аказалася ня ўсё! Часьць яго,—і то не малая, а каля 200 фэст-мэстраў,—кудысь прапала з лесу і з пляцу!..

Пачалося сьледзтва, але, як заўсёды ў нас бывае, „sciśle poufne" (строга сакрэтнае). Прыехаў навет самаўрадавы інспэктар, хадзіў хтосьці і на тартак, пісалі пратаколы.

Што дало гэтае сакрэтнае сьледзтва, — ніхто добра ня ведае.

У гэтай справе вінаваты найбольш пісар Рачыцкі, які фактычна кіраваў і кіруе гмінай, ды былы войт Маркевіч; з імі ў хаўрусе былі: радны Паўловіч, заступнік войта Панкратовіч, прадсядацель рэвізыйнай камісіі Пархвенаўскай гміны К. Гайковіч і К-о, а разам пан лясьнічы. Каетан Гайковіч (сяляне б'юць, як у бубен, што ён тайнік, і гэта мае пад сабой шмат падстаў!) езьдзіў разоў некалькі „аблічываць" дрэва, і заўсёды ўсё знаходзіў „упарадку", як і „ўпарадку" знайшоў ён усе справы восеньню 1925 г., калі за розныя службовыя і крымінальныя справы (надужыцьці з поштай, справы грашовыя, дарожныя і г. д.), навет Стараста Дунілавіцкага пав., ня гледзячы на ўсю „польскасьць" Маркевічавай працы, выгнаў яго з войтаўства. Тады Маркевіч, баючыся суда, хацеў застраліцца і пусьціў сабе кулю ў бруха.

Стараста Дунілавіцкага пав., летась „зьлітаваўся" над гэтай хэўрай і, прагнаўшы Маркевіча з ураду, зрабіў усё магчымае, каб справа была „шыта і крыта". Праз месяцаў дзевяць шыла вылезла з мяшка ізноў. З сакрэтнага сьледзтва выглядае аднак, што стараста Дзісьненскага павету, да якога ад 1./I. 1926 г. належыць Пархвенаўская гм., гэта шыла можа схаваць узноў у мяшок і справу ўсю пакінуць „у сакрэце", як ад грамадзян, так і ад вышэйшага начальства...

Аднак, каб розныя злыдні і далей не абкрадалі нас сялян і работнікаў, мы самі мусім парушыць гэту справу.

Нязнаньнем меркі (фэст-мэтра) ня можна прыкрываць прапажы дрэва. Хто ня ведае, як дрэва мерыць, хай за гэту работу не бярэцца і „ў высокія чыны" ня лезе!.. **Б. Свой.**

## Абшарніцкія зьдзекі.

(Жабчыцкая гм., Пінскага пав.).

Сена няма — трэба ісьці касіць да пана. Дастанеш пожню, дык мусіш пяць частак зрабіць пану, а шостую сабе. Дый каб даў пан хоць „на часьці" сена, то трэба яму яшчэ перад тым „выслужыцца" так ці інакш.

Асабліва абшарнік Скірмунт адзначаецца зьдзекамі над сялянамі. Працуюць у яго па 16 гадзін у пóру за 1 злот. На работу мусяць сяляне праходзіць дарогаю, што йдзе праз яго зямлю. Сяляне йдуць, а п. Скірмунт стане на дарозе і сьпіхае, калі яму нешта няўлюбку, праходзячых у канаву, а калі хто агрызьнецца, Скірмунт, як за паншчынай, адчыняе стрэльбу да людзей. Гэтакі выпадак быў 2-га ліпня с. г. з чатырма жанчынамі, што йшлі па гэтай дарозе.

21-га чэрвеня 1926 году жыхар вёскі Туляцін, Ставецкай гм., Павал Хамечка пасьвіў на дарозе свайго каня—каля зямлі маёнтку Кашэвічы, пана Скірмунта. Раптам конь спалохаўся чагось, вырваўся з рук Хамечкі і пабег на зямлю Скірмунта. Тут яго ўзялі лякаі ды павялі ў двор.

Хамечка зараз сьледам за канём пашоў у двор. Панскія лякаі моцна пабілі селяніна ды павялі да пана. „Ты большэвіку!"—пачаў крычаць Скірмунт і біць яго, а пасьля паслаў па паліцыю з пастарунку Ставецкай гміны. Зрабіла яна пратакол і пераслала на судовую справу. **Недалёкі.**

„Народная Справа", адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

Адказны-Рэдактар: Т. Крачына. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм П. Мятла.